**Соль для Беларусі.** Шэф харчовага аддзелу цывільнага ураду для усходніх зямель павядаміу, што прыняты усе меры, каб як найхутчэй даставіць соль для тутэйшага краю, так-сама спадзяюцца, што болей ні будзе недастачы у солі.

**Цукер і мыло** з Варшавы па адресу Цэнтробелсаюза дзеля раздачы коопэратывам прыбудзе не раней будучага месяца.

**Прадажа дроу на пуды** (па 20 п. на душу) для беднаты ад 6-га лістапада адкрыта магістрацкім аддзелам апалу: 1) па Замковай вул. у двара школы мясьнікау і 2) на мястовым складзе па Петраградзкай вуліцы у парку б. конкі.

Пуд дроу каштуе—4 рублі.

**Курсы беларускай мовы і беларусазнауства** для настаунікау гарадзкіх пачатковых школ закончыліся 31 кастрычніка. Як ведама, яны цягнуліся два тыдні. Цяпер адбываецца кольоквіум для тых настаунікау, каторые хочуць мець пасьвядчэньні.

**У прауленьне цэнтральнага рабочага коопэратыва** адтрымана папера ад польскай улады аб тым, каб перш на-перш, пераіменаваць гэту установу у саюз злучаных коопэратывау; пасьля, увязьці цяпер-жа у унешняй перапісцы польскую мову, а з новага году—і ва унутраней, г. з. у дзелаводзтве.

Апроч таго польская улада мае увезьці у гэтай установе пасаду камісара, на якую яны намецілі п. Морэншыльда (б. менскі павятовы прадвадзіцель шляхэцтва).

**Школьная справа.** Школьным інспэктарам менскага павету апавешчана настауніцкаму пэрсаналу аб тым, што цяпер адбудуцца чародные рэвізыі па школах (па 2 за зіму), дзеля праверкі ведау вучняу, а глауным чынам, пастаноукі навучаньня польскай мовы.

**Чыгункі** на тэрыторыі „усходніх зямель, згодна распараджэньню, пераходзяць ад ваеннага ведамства пад кірауніцтво грамадзкай улады.



Дзеля таго, што палажэньне чыгунак па гаспадарскай часьці досіць цяжкае, сюды дэлегуецца спэцыяльная камісыя з удзелам дэпутатау сойму дзеля высьненьня становішча і вышуканьня мер к паляпшэньню.

**Спыненьне перавозкі таварау** па усім чыгункам Польшчы ужо адбілася на тутэйшым рынку. Некатарые тавары пачалі даражэць. Гандляры чакаюць, хаця спыненьне перавозкі таварау працягнецца усяго 10 дзен.

**Прадвыбарны сход** жыдоу выбаршчыкау адбудзецца сягоньня у мястовым тэатры а трэцяй гадзіне у дзень.

**У Менскім сельска-гаспадарскім т-ве** заутра, 9 лістапала, адбудзецца агульны сход членау дзеля разгляду вельмі важных пытаньняу аб сельска-гаспадарскіх адносінах з вескай.

**У чыгуншчыкау** заутра 9 лістапада у памяшканьні камернага тэатру, адбудзецца агульны сход для дакладу аб выніках працы па паляпшэньню цяжкага быту чыгуншчыкау менскага вузла.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау, Менск.